# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Субота, 24 верасня 1994 года

№ 102 (10802)

Цана 30 руб.

■ Эканоміка

## ПРАБЛІСКІ НАДЗЕІ

**Статыстыка ведае ўсё. У тым ліку і аб становішчы спраў у народнагаспадарчым комплексе вобласці. Адзінае, што ёй не пад сілу, — парадаваць добрымі весткамі, выклікаць у нас аптымізм пры поглядзе ў заўтрашні дзень. Эканоміка Міншчыны, як і ўсёй рэспублікі ў цэлым, па-ранейшаму моцна кульгае на абедзве нагі, хаця і праглядваюцца праблiскі надзеі.**

Асобныя прадпрыемствы сёлета за восем месяцаў павялічылі выпуск прадукцыі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Сярод іх — Смалявіцкі механічны завод /144,8 працэнта/, Слуцкая мэблевая фабрыка /127,7/, барысаўскі завод "Паліміз" /122/, Нясвіжскі — медпрэпаратаў /113,5/. У цэлым жа па вобласці за ліпень-жнівень на 4,9 працэнта зменшыліся тэмпы спаду аб"ёмаў вытворчасці, палепшыліся паказчыкі па тавараабароту, рэалізацыі насельніцтву бытавых паслуг, продажу дзяржаве жывёлагадоўчай прадукцыі.

Пастугова набірае тэмпы і выпуск тавараў народнага спажывання. Па выніках работы за восем месяцаў ён склаў 84,3 працэнта супраць 75,5 — у студзені. Праўда, прырост у асноўным за кошт прамысловай групы.

Вось, бадай, і ўсё, што нас хоць неяк зможа суцешыць, уліць кроплю аптымізму на фоне абвальнай эканомікі. Яна ж знаходзіцца ў глыбокім крызісе. Нашы ўсёведныя статыстыкі фіксуюць змяншэнне валавога ўнутранага прадукту на адну чвэрць, бягучую галопам інфляцыю, пік якой /53,4 працэнта/ прыпаў сёлета на жнівень. Затухае інвестыцыйны працэс, старэе і мае высокую ступень фізічнага зносу тэхналагічнае абсталяванне. Вялікі дэфіцыт і плацежнага балансу. Расце знешняя запазычанасць рэспублікі, агульная сума якой да канца года наблізіцца да 2 мільярдаў долараў.

Калі ж параўноўваць у супастаўных цэнах аб"ём прамысловай вытворчасці вобласці за восем месяцаў, то ён знізіўся ў параўнанні з адпаведным перыядам на 12,8 працэнта. 189 прадпрыемстваў скарацілі выпуск прадукцыі — 69,7 працэнта ад агульнай колькасці. У тым ліку Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый — на 47 працэнтаў, барысаўскі "Чырвоны металіст" — на 42, Жодзінскі аўтамабільны — на 39,4, народнае прадпрыемства "Калінка" з Салігорска — амаль напалавіну.

Мы дагаспадарыліся да таго, што пачалі завозіць з іншых рэгіёнаў прасцейшыя рэчы штодзённага карыстання, якія раней удосталь выраблялі самі: днушкі кухонныя і прасавальныя, граблі драўляныя, кантэйнеры для хлеба, прышчэпкі для бялізны, тапарышчы, ручкі для малаткоў і г.д.

Скараціўся выпуск фотаапаратаў на 68,3 працэнта, дзіцячых калясак — на 59,5, дзіцячых веласіпедаў — на 50,5, шафаў для адзення і бялізны — на 64,1, канапаў-ложкаў — на 54,8, баваўняных тканін — на 25,4, трыкатажных вырабаў — на 54,9, абутку скуранога — на 25 працэнтаў. На 21,9 працэнта менш выраблена каўбас, на 10,3 — мяса, на 32,2 — макаронаў, на 65,7 працэнта — піва.

Усё гэта адмоўна адбілася і на рознічным тавараабароце, які зменшыўся ў адносінах да мінулага года на 38,3 працэнта. Было прададзена мяса і птушкі на 40 працэнтаў менш, чым летась, масла — на 29, кандытарскіх вырабаў — на 31,5, цукру — амаль на 4 працэнты.

Рэзка скараціўся продаж насельніцтву і многіх нехарчовых тавараў, асабліва швейных і складаных бытавых.

Нашы даходы не паспяваюць за расходамі. Калі рознічныя цэны на тавары народнага спажывання і платныя паслугі насельніцтву ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыліся ў 27 разоў, то сярэднямесячная зарплата — толькі ў 15,8. Відавочнае пагаршэнне жыццёвага ўзроўню людзей.

За што змагаліся, тое і атрымалі. Мы — людзі рашучых дзеянняў: ламаць — дык дашчэнту. А потым ужо думаем, да чаго мы прыйшлі і як выбрацца з тупіка, у якім апынуліся. Развал гаспадарчых сувязей і прывёў да многіх негатыўных з"яў у нашай эканоміцы.

З-за незабеспячэння сыравінай на працяглы час спынялася вытворчасць. Толькі ў лёгкай прамысловасці страты рабочага часу па гэтай прычыне склалі 456 тысяч чалавека-дзён, ці 21 працэнт у агульнай суме страт. А ў цэлым ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі Міншчыны — 2,2 мільёна чалавека-дзён. Ці, інакш кажучы, уся прамысловасць вобласці не працавала 16 дзён. І прыкладна 43 працэнты гэтых страт атрыманы з-за адсутнасці сыравіны і матэрыялаў.

А раз прастоі, то вычэрпваюцца крыніцы паступлення сродкаў, і калектывы трапляюць у цяжкае фінансавае становішча. У іх няма за што набыць неабходныя для вытворчасці матэрыялы ці расплаціцца за атрыманыя гатовыя вырабы. Так, запазычанасць прадпрыемстваў вобласці на першае жніўня склала 119,7 мільярда рублёў /з улікам дэнамінацыі/. У сваю чаргу і ім не заплацілі за адгружаную прадукцыю 97,6 мільярда /75,6 мільярда — беларускія спажыўцы, 15,8 — расіяне, 4,3 — украінцы, па 0,8 мільярда — Узбекістан і Казахстан/.

Сітуацыя няпростая. Аблвыканком звяртаўся да адміністрацый Цвярской, Курскай, Ленінградскай, Маскоўскай і іншых абласцей Расіі з просьбай хутчэй пагасіць запазычанасць. І шэраг з іх аператыўна вырашалі набалелыя для нас пытанні. Аднак становішча па-ранейшаму складанае.

Шакіруючым выглядае і становішча спраў у будаўніцтве. Зрываецца ўвод многіх аб"ектаў сацыяльнай сферы. Перш за ўсё жылля, устаноў аховы здароўя, дзіцячых садоў.

На мяжы магчымага працуюць аўтамабілісты. На адну трэць зменшыліся перавозкі грузаў і пасажыраў. Страты па аўтобуснаму транспарту за восем месяцаў склалі 137,5 мільёна рублёў.

Вялікія цяжкасці ўзнікаюць у забеспячэнні спажыўцоў прыродным газам. З-за неплацяжоў можа наогул спыніцца яго падача.

Глыбокі структурны крызіс эканомікі нельга пераадолець "кавалерыйскай атакай". Бярэцца курс на ажыццяўленне канкрэтных мер. Аб тым, на якіх напрамках канцэнтруюцца дзеянні ўрада, гаварылася на нядаўняй рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў органаў мясцовай улады. Хочацца верыць, што праблiскі надзеі будуць разгарацца ўсё ярчэй і ярчэй.

*Пётр СІДАРОВІЧ, рэдактар сацыяльна-эканамічнага аддзела "Мінскай праўды".*

ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## ГИМНАЗИЯ СДАЛА ЭКЗАМЕН. НА «ОТЛИЧНО»

Недавно аттестационная комиссия Государственной комиссии учебных заведений Министерства образования Республики Беларусь проверила работу педагогического коллектива Солигорской гимназии.

В ходе аттестации проверяющие побывали на уроках, занятиях по интересам, внеклассных мероприятиях, посетили курсы по выбору, изучили учебно-плановую документацию, беседовали с педагогами, учениками, их родителями.

Все учителя первой и пока единственной в городе белорусских шахтеров гимназии имеют высокую профессиональную подготовку. Кроме того, комиссия предложила руководству гимназии по итогам аттестации повысить категорию учителям В.М.Бондаревой, И.И.Головчиц, Е.В.Жук, Т.Н.Дэусовой, Г.М.Лукьянченко, В.А.Рымкевичу, Н.Е.Цановской, О.Ф.Черниковой, В.М.Шемету.

На уровне оказалась и результативность учебно-воспитательного процесса. Комиссия провела контрольные, тестирование учеников 4-х, 9-11-х классов по белорусскому и русскому языкам, белорусской и мировой литературе, математике, физике, химии, биологии, информатике, географии, мировой истории, истории Беларуси, французскому языку. 99 процентов контрольных показали хорошие и отличные результаты.

Приятно удивила проверяющих чистота гимназических помещений, прекрасное оформление учебных кабинетов, высокая культура поведения гимназистов, уровень их воспитанности.

— Мы с удовольствием отметили, — сказал председатель аттестационной комиссии В.И.Валюк, — что солигорская гимназия одна из лучших в республике.

*Анатолий ПАНАСЕНКО. г.Солигорск.*

## ФОНДЫ НАШЛИ ОБЩИЙ ЯЗЫК

Состоялась пресс-конференция, которую провели руководители трех фондов по программе «Взаимопонимание и примирение». От России присутствовал В.Князев, от Украины — Е.Максимчук и от Беларуси — В.Герасимов.

Два дня напряженной совместной работы специалистов этих фондов, Белорусской ассоциации несовершеннолетних узников фашизма, представителей посольств этих стран дали положительный результат. Они выработали единую систему определения категорий жертв фашизма и механизм выплаты дойчмарок, взаимного информирования, порядок выдачи документов, удостоверяющих право получения помощи. Решено вести разработку программы социальной защиты для тех, кто подвергся национал-социалистским преследованиям.

Три стороны пришли к выводу, что жертвы нацистского преследования есть и в странах Прибалтики, Казахстане, Молдове. Белорусский фонд будет выплачивать помощь этой категории граждан в Эстонии, и, соответственно, Россия — в Литве и Латвии, Украина — в Молдове и Казахстане. Что касается количества пострадавших, то их точное число пока не установлено в республиках и имеет разную степень достоверности. Сейчас идет выявление таких людей, изучение их документов, определение законности и величины помощи.

*(Наш корр.).*

■ В партиях и движениях

## ДСПС ОСУЖДАЕТ АГРЕССИЮ

Сопредседатели республиканского совета «За демократию, социальный прогресс и справедливость» выступили з заявлением. В нем, в частности, говорится, что США в очередной раз направили своих солдат на территорию суверенного государства Гаити, народу которого предстоит испытать на себе все «прелести» «нового мирового порядка» наподобие того, что внедрен в Сомали, Панаме и других странах.

Все это прикрывается высокими словами о миротворчестве и демократии, решениями мирового сообщества в лице ООН. Участники ДСПС решительно осуждают агрессию США, говорится в заявлении, и настаивают на том, чтобы Президент и Верховный Совет республики поступили аналогичным образом.

Исходя из ситуации в Гаити Республика Беларусь не должна пятнать себя присоединением к лицемерной программе «Партнерство ради мира», так как это пристегнет ее к агрессивному блоку НАТО и сделает соучастницей подобных акций международного разбоя. ДСПС настаивает, чтобы руководители республики приняли необходимые дипломатические меры в целях прекращения агрессии США.

*(Наш корр.).*

## НЯХАЙ СПАСЦІГНУЦЬ ЛЮДЗІ ДАБРЫНЮ

У гарпасёлку Фаніпаль Дзяржынскага раёна ўзведзены малельны дом (у асноўным на сродкі вернікаў), дзе рэгулярна праводзяцца богаслужэнні. Закладзены падмурак новага будынка царквы.

Садзейнічае духоўнаму адраджэнню і нядзельная школа, якая пачала працаваць крыху раней. Набыць веды пажадалі не толькі хлопчыкі і дзяўчынкі, але і дарослыя людзі. Яны вывучаюць Свяшчэннае пісанне, этыку хрысціяніна, Біблію, спасцігаюць сакрэты духоўных ісцін.

— Можа, вера ў Бога, — гаворыць айцец Уладзімір, — дапаможа людзям стаць больш шчодрымі і міласэрнымі ў адносінах адзін да аднаго ў наш нялёгкі час.

Нядзельная школа таксама працуе пры Дзяржынскай Свята-Пакроўскай праваслаўнай царкве.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

■ Крымінал-тэлетайп з Нясвіжчыны

### КЕЛЬМА І НОЖ

**У той дзень будаўнічая брыгада калгаса імя Дзяржынскага атрымала зарплату. Тэрмінова былі камандзіраваны ганцы ў сельмаг па гарэлку.**

**Пілі за ўдала пакладзены вугал дома, за прыступкі ганка... "Кіраваў" п"янкай Л.Рачок. Ён даводзіў сабутэльнікам, што ўмее валодаць не толькі кельмай, але і нажом. Калі нехта выказаў сумненне, дык раз"юшаны Рачок схапіў нож і ўсадзіў яго ў грудзі жанчыне, якая прысутнічала пры размове. Яна памерла.**

**Падонак нанёс нажавыя раны яшчэ тром мужчынам. Цяпер ён апраўдваецца, што нічога не памятае. Суд павінен вынесці сваё рашэнне.**

### «ЗАПАХЛА» НАРКОТЫКАМІ І Ў ГАРАДЗЕІ

**Дзяцюк няпэўнага ўзросту сышоў з электрычкі на станцыі Гарадзея. За спінай у яго вісеў пакоўны рэчмяшок. Пазней высветлілася, што гэта быў Р.Гуртавенка, візіцёр з Украіны. А прывяло яго да сваякоў у вёску Копцеўшчына жаданне "агледзецца" і па магчымасці пагандляваць макавай саломкай.**

**Ды вяскоўцы, мусіць, не прывучаныя яшчэ да такога зелля. Нехта паведаміў аб прыезджым у міліцыю.**

**— Я знайшоў гэты мяшок з саломкай на дарозе, — тлумачыць следчаму Гуртавенка.**

**Разлік на наіўных! Давядзецца ўсё ж яму прыпомніць, адкуль "чэрпаў" саломку, каму яна прызначалася.**

### «ДЗІРКІ» НА ДАРОГАХ

**Хто з нас не абураецца "дзіркамі" і ямамі на новых асфальтаваных вуліцах і дарогах. І не заўсёды гэта вынік недахопу грашовых сродкаў, дасканалай тэхнікі. Часта самі рабочыя, майстры крадуць асфальт, заганяюць яго "налева".**

**Нядаўна пракуратурай раёна ўзбуджана справа па факту злоўжывання службовым становішчам прарабам ДРБУ-29 У.Доўнарам. Добраўпарадкоўваючы вуліцу ў вёсцы Гусакі, ён прадаў за гарэлку 13 тон асфальту калгаснікам, якія ў сваіх дварах "навялі марафет".**

**Вядома ж, гледзячы на начальніка, гандлявалі асфальтам і падначаленыя.**

### ДА НАС ПРЫЕХАЎ РЭВІЗОР

**Ёсць такі Асмолаўскі дом-інтэрнат для састарэлых. Тут адзінокія бабулі і дзядулі дажываюць свой век. Дзяржава расходуе немалыя сродкі на рэканструкцыю памяшканняў, на харчаванне, на бытавыя мэты.**

**Кажуць, вялікі грэх адбіраць у сляпога старога кіёк. І ўсё ж знаходзяцца зладзеі, якія не супраць пажывіцца за кошт інтэрната. Мясцовы жыхар С.Еўтух украў тут два рулоны лінолеуму, некалькі скрынак керамічнай абліцовачнай пліткі.**

**Самае дзіўнае, што нядаўна ў доме-інтэрнаце працавалі рэвізоры — і нічога не выявілі, хаця крадзеж учынены... некалькі месяцаў назад. Мусіць, ніхто ўжо сёння не палохаецца, калі гучыць вестка: "Да нас едзе рэвізор!" Важна прадумаць, як яго пачаставаць.**

### ЗБЕГЛА МАЦІ

**Крымінальная справа заведзена на жыхара Нясвіжа В.Новіка. Ён бестурботна "гастралюе" па краінах СНД, але забывае плаціць аліменты на ўласнае дзіця. Жонка б"ецца як рыба аб лёд, ледзьве зводзіць канцы з канцамі.**

**І ўжо зусім неверагодны факт: у сям"і Мась збегла кудысьці жонка, пакінуўшы дваіх дзяцей. Аб"яўлены вышук Ірыны Мась. Адно дзіця ўзялі да сябе суседзі, другое вырашана ўладкаваць у школу-інтэрнат.**

**Застаецца толькі пашкадаваць малых, у якіх такія бацькі.**

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*




## ЦІ СТАНЕ ПРАЕКТ РАШЭННЕМ?

**Напярэдадні чарговай сесіі абласнога Савета атрымаў праект рашэння па пытанню "Аб рабоце выканкома па стабілізацыі эканомікі і ўкараненню рынaчных адносін у аграпрамысловым комплексе вобласці". Хацеў бы праз газету падзяліцца з калегамі-дэпутатамі сваімі меркаваннямі аб тым, што прапанавана дэпутацкаму корпусу.**

Асабіста ў мяне заўсёды выклікае здзіўленне нейкая «засакрэчанасць» гэтых дакументаў у тым плане, што ніколі не называюцца іх аўтары. Я ўжо неаднойчы гаварыў аб гэтым, але аўтары праектаў па-ранейшаму застаюцца нам невядомыя. Калі рабіць спасылку на тое, што пастаянная камісія займаецца падрыхтоўкай праекта рашэння, то тут ужо прыгадваецца Аркадзь Райкін з яго: «Хто шыў касцюм?»

Але гэта, як кажуць, заўвагі па форме. Большы ж інтарэс павінен быць да зместу. А тут, як ні паглядзі, каштоўнага вельмі мала. Канстатуючая частка, напрыклад, вельмі вялікая і толькі рассейвае ўвагу таго, хто знаёміцца з гэтым дакументам. Наогул жа, на маю думку, у праекце рашэння заслугоўвае ўвагі (пры спрэчнасці некаторых момантаў) толькі пункт 8, над якім, думаю, і трэба папрацаваць, паклаўшы яго ў аснову ўсяго праекта рашэння, дапоўніўшы тэрмінамі выканання, мерамі адказнасці. Усе ж астатнія пункты праекта, без перабольшвання, напоўнены пустым дэкларатыўным шматслоўем, пажаданнямі, якія нікога ні да чаго не абавязваюць. Амаль ні адзін з іх нельга падвергнуць кантролю. Ні ў адным не прадугледжваюцца тэрміны выканання, меры адказнасці. «Невядомыя» аўтары не абцяжарвалі сябе пошукам практычных мер па разглядваемаму пытанню

Гэты праект рашэння, думаю, можна расцэньваць як:

— узор бездапаможнасці і, мякка кажучы, невысокай кампетэнтнасці нашых абласных структур, якія адказваюць за аграпрамысловы комплекс;

— карыслівы разлік зацікаўленых абласных структур на абыякавасць дэпутацкага корпуса, дазваляючага ім і надалей бестурботна існаваць;.

— насмешку з боку аўтараў праекта рашэння над маўклівым абыякавым «адабрамс» большасці дэпутацкага корпуса.

Пры першым варыянце можна толькі дадаць, што не адпрацавалі заработную плату тыя, хто рыхтаваў гэты праект. Пры двух другіх варыянтах, думаю, шанцаў на поспех у аўтараў праекта (пры сённяшняй арганізацыі працы дэпутатаў, пры цяперашняй структуры Савета) больш чым дастаткова... Не згубіць бы дарма час.

*С.Д.СТАНКЕВІЧ, дэпутат абласнога Савета г. Слуцк.*

**P.S.** Пісьмо ў рэдакцыю прыйшло са спазненнем. Але мы ўсё ж вырашылі даць аўтару магчымасць выказаць на старонках газеты свае меркаванні.

## ЕДУ З РАДАСЦЮ

Мне як ветэрану працы і вязню канцэнтрацыйнага лагера «Трасцянец» кожны год даюць пуцёўку ў санаторый «Крыніца», што каля Ждановічаў. І кожны раз еду туды з радасцю.

Галоўны ўрач санаторыя Адам Францавіч Шпакоўскі — душэўны і добры чалавек. Хацелася б адзначыць і загадчыцу аддзялення Людмілу Сцяпанаўну Ганчарову. У яе лячыліся ўдзельнікі ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, жыхары забруджаных раёнаў. Кожнаму яна ўдзяліла ўвагу, для кожнага знайшла добрае слова.

Мяне лячыў Андрэй Андрэевіч Пячонка. Дасведчаныя людзі гаварылі, што ён — прафесіянал высокага класа. Я ж дадам: а яшчэ — чалавечны, клапатлівы ўрач. Уважліва выслухае, дасць параду, паспачувае. Добрым словам успамінаю я і медсясцёр Валянціну Адамаўну Ермалінскую і Валянціну Мікалаеўну Цатыга.

А наогул удзячная ўсім урачам і медсёстрам гэтага санаторыя. Дзякуючы ім у «Крыніцы» пануюць добразычлівасць і спакой.

*Марыя ХАДАСЕВІЧ, былы вязень канцлагера "Трасцянец".*

## А ВОРЫ И ГРАБИТЕЛИ НЕ БОЯТСЯ

Хотелось бы в вашей газете высказать мнение и внести предложение по следующему вопросу. Надеюсь, читатели поддержат меня.

В последние годы отмечаются массовые набеги паразитирующих элементов на сады, огороды и скот, что принадлежат колхозам, совхозам, гражданам. Особенно страдают ветераны, люди преклонных лет. Их вор и грабитель не боится, действует нагло и открыто. Сейчас также получила широкое распространение вольная пастьба скота (обильная и беззатратная) на огородных участках пенсионеров. Особенно коз, которые уничтожают все: капусту, огурцы, томаты, свеклу. Обладая большой пронырливостью, эти животные практически неуловимы, легко преодолевают всякие препятствия и появляются на участках в любое время суток, становятся настоящим бедствием.

Такие явления — следствие не только падения нравов, но и отсутствия какой-либо ответственности по закону. Возьмите наш Кодекс об административных правонарушениях. Там есть только статья 97-я об ответственности за потраву посевов колхозов и совхозов. Что касается хищений и повреждений посевов граждан, то тут пробел. Увещеваниями тунеядца не проймешь. Идти за защитой в суд — беспросветно. А через товарищеский суд можно взыскать разве что 5 рублей ущерба и 5 рублей штрафа!

Поэтому через газету обращаюсь к депутатам Верховного и областного Советов: необходимо поставить на ближайших сессиях вопрос о внесении дополнений в Кодекс об административных правонарушениях, где была бы предусмотрена ответственность за потраву и повреждение посевов, садов, ягодников, за хищение сельхозпродукции у граждан. А штрафы установить в размере от 1 до 10 минимальных зарплат с взысканием нанесенного ущерба. Причем право наложения их для оперативности решения вопроса предоставить (в зависимости от размера вреда) товарищескому суду, исполкомам местных Советов, а также районным судам и отделам милиции. За повторные случаи привлекать виновных к повышенной (вплоть до уголовной) ответственности.

Нельзя забывать, что отсутствие прав порождает не только беспомощность, но и рост правонарушений.

*Степан РУБАНОВ, ветеран войны и труда. г.Крупки.*

## УСЁ ТОЙ ЖА СЦЯЖЫНКАЙ

Нядаўна, гартаючы адзін з альбомаў газетных выразак, знайшоў сваю самую першую публікацыю ў "Мінскай праўдзе". Яна была надрукавана роўна трыццаць пяць гадоў назад. Яе кароткі змест такі.

Заканчвалася вячэрняя дойка. Брыгадзір фермы Мікалай Багатыроў вывесіў у "чырвоным кутку" прозвішча пераможцы працоўнага дня — маладой даяркі Ліліі Вайцяхоўскай.

— Дзяўчаты, сёння ж субота! Хутчэй хадзем у клуб. У кіно спазніліся, дык хоць на танцы паспеем,— прапанавала весялуха Наташа Пальчык.

Хутка групка дзяўчат падышла да клуба. Танцы былі ў разгары. Даяркі закружыліся ў вальсе. І толькі адна Ліля заспяшалася дадому. Доўга не магла заснуць. Успамінала свой апошні школьны экзамен, як атрымала атэстат сталасці. А куды далей? У інстытут не паступіла. Закончыла курсы прадаўцоў. Працавала ў Мінску. Па выхадных прыязджала ў вёску, да бацькоў. Тут і пазнаёмілася з шафёрам калгаса "Новы быт". Выйшла замуж, працавала ў вясковым магазіне. Школьныя сяброўкі Галя і Іна прапанавалі пайсці працаваць на ферму. Згадзілася.

Шмат часу аддзяляе нас ад тых падзей. Які ж сённяшні лёс герояў даўняй заметкі?

Мікалай Аляксеевіч Багатыроў на пенсіі. У час працы ў калгасе быў і брыгадзірам паляводчай брыгады, начальнікам пажарнай аховы гаспадаркі. Узнагароджаны ордэнам Леніна.

Весялуха Наташа дапрацавала на ферме да пенсіі. Іна і Галя не вытрымалі экзамену на званне жывёлавода, сталі прадаўцамі. Цяпер — таксама на пенсіі.

І толькі Лілія Іосіфаўна Вайцяхоўская і сёння крочыць па знаёмай сцяжынцы на ферму. Мне яна неяк сказала:" На ферме пачынала працоўнае жыццё, тут і закончу. Да пенсіі засталося паўгода. Будзе здароўе, дык папрацую яшчэ гадкі з два".

*Георгій ЛЯНКЕВІЧ, жыхар вёскі Крупіца Мінскага раёна.*

## МУЖНАСЦІ ЯМУ. АПТЫМІЗМУ!

Не люблю ныцікаў. Тады я заўсёды ўспамінаю жыхара пасёлка Беразінскі Маладзечанскага раёна Фёдара Фёдаравіча Курыловіча. Яго можна параўнаць з героем «Аповесці аб сапраўдным чалавеку» — легендарным лётчыкам Марэсьевым.

Усё жыццё Ф. Курыловіч працаваў на торфабрыкетным заводзе майстрам транспартнага ўчастка. Яго паважалі. Настаў час — пайшоў на пенсію. Тут і напаткала яго бяда: спачатку ампутавалі адну нагу, потым другую. І вось ужо пяць гадоў жыве Фёдар Фёдаравіч без абедзвюх ног. Аднак імкнецца нікому не быць абузай. Заўсёды ў яго прыгатавана ежа, прыбрана ў хаце, на падворку — парадак.

Не забываюць Ф.Курыловіча суседзі, работнікі торфабрыкетнага завода — заходзяць, дапамагаюць, калі трэба.

Не так даўно Фёдар Фёдаравіч адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. Дай Бог яму і надалей мужнасці, бадзёрасці, аптымізму.

*Генадзь ДУРЭЙКА. г.Маладзечна.*

*XVII сессия областного Совета депутатов XXI созыва*

# АПК И РЫНОК

**(Окончание прений по докладам. Начало в № 101.)**

## *Г.Н.ТОЛКАЧ*

***(Крупский поселковый избирательный округ № 99, генеральный директор предприятия "Амкодор-Можа"):***

— Представляя предприятия, обслуживающие сельское хозяйство, а конкретнее — коллективы райагропромтехник, насчитывающие в области около 7 тысяч работающих, хотелось бы этот вопрос проследить на той ситуации, в которой очутились наши коллективы.

Ряд причин:

- сложное финансовое положение хозяйств;
- дороговизна наших услуг;
- низкий уровень качества отдельных работ;
- слабое техническое оснащение;
- надуманные, экономически не обоснованные объемы и другие привели к тому, что наши мощности, людские ресурсы оказались востребованы селом в лучшем случае на 1/3. В перспективе ясно, что хозяйства не смогут содержать такой огромный штат обслуги.

Перепрофилировать, перестроить оказавшихся не у дел людей, службы, подразделения — на что и как??? Нужны технологии, конструкторские наработки, техническое перевооружение. Все это стоит немалых денег, даже для таких сравнительно небольших коллективов, как наши. Очевидно, и это подтверждает доклад, в одиночку, чисто в рамках агропромышленного комплекса эти проблемы не решить.

В докладе приводилось достаточно примеров по реформированию производства и внедрению рыночных отношений. Так уж случилось, что и наш коллектив попал в сферу реформируемых.

При всей неоднозначности предложенного нами пути все-таки мы нашли поддержку в райисполкоме, облисполкоме, облсельхозпроде, и нам дали шанс, когда неполные два года назад Крупская РАПТ, ассоциация "Минскоблагропромтехника", концерн "Амкодор" учредили предприятие "Амкодор-Можа", являющееся правопреемником "Райагропромтехники". Цель — пустующие площади заполнить оборудованием, получить новые технологии, конструкторские разработки, опыт, знания, которые имеются в машиностроении, быстро переучить людей. При этом ни в коей мере не ущемляя услуги для села, а наоборот, на основе реорганизации поднять их на более высокий уровень. Несколько примеров.

1991-1992 год. Мы потеряли около 120 человек работающих, по физическим показателям объемы работ сократились на 50, по некоторым видам — и более процентов.

1993-1994 год. Создано более 90 новых рабочих мест, освоены новые виды продукции: совместно с концерном — гамма самоходных катков от 1,5 до 12 т, отопительные котлы, целый перечень товаров народного потребления. При участии и помощи "Облсельхозпрода" разработана документация и изготовлено навесное оборудование к "МТЗ", включающее стогометатель, ковш, бульдозер и другие сменные рабочие органы, колонковая зерносушилка "КС-5". Предприятие переоснастилось: имеем плазменную резку, оборудование с ЧПУ, появились специалисты по программированию, электронике, технологии и уверенность — будем развиваться, а не разваливаться. Предприятие работает, и часть его в две смены, прихватываем и выходные, исправно платим налоги. Хотя это в целом. В деталях же не все так гладко и проблем очень много.

Цель моего выступления — не самореклама, а желание обратить внимание тех, кто, не желая вникнуть в суть дела, либо в силу личной ограниченности или личных амбиций, всячески тормозят все то, что не укладывается в рамки их привычного мышления, образа жизни. И если, я уже говорил, в райисполкоме, облисполкоме находишь понимание (т.е. у людей, которые знают производство, бывают на нем, владеют реальной ситуацией), то у тех, кто близко не бывает в коллективах, проявляется огромное рвение решать их судьбу в тени кабинетов собственных резиденций. Оказывается, сменив вывеску, сохранив виды работ и начав точить болт для хозяйств не на старом добитом станочке, а на оборудовании с ЧПУ, налог уже нужно платить в три раза больше. Хотя, по идее, создание новых рабочих мест должно бы стимулироваться государством. Но эту проблему частично удалось решить. С нами разговаривали, спорили, но где гарантии, что и другим не дадут по рукам.

Монополия банка в небольших райцентрах в руках АК АПБ. Эту трибуну использую не совсем по назначению лишь потому, что все другие варианты испробованы.

## *Э.И.УМЕЦКИЙ*

***(Острошицкий избирательный округ № 110, председатель колхоза "Логоза" Логойского района):***

— Я остановлюсь на некоторых вопросах, которые нужно до конца решить. В марте в облсельхозпроде была организована встреча ученых и руководителей так называемых базовых хозяйств. Преследовалась цель — организовать внедрение прогрессивных ресурсосберегающих технологий производства сельскохозяйственных культур. 7 апреля был заключен договор между НПО "Агротехнополис" с Минским облсельхозпродом, намечена программа реализации его.

Необходимо отметить, что в республике имеются свои научные разработки, реализация которых может принести большой эффект. В БелНИИЗК проведены широкомасштабные исследования, на основании которых подготовлены рекомендации и предложения для внедрения различных систем обработки почвы в интенсивном земледелии. В ЦНИИМЭСХ созданы и внедрены новые чизельные культиваторы и комбинированные почвообрабатывающие агрегаты, технический уровень которых соответствует мировому. Проходят испытания опытные образцы плугов для гладкой пахоты, высокопроизводительные универсальные комбинированные агрегаты.

Обратите внимание на то, что внедрение перспективной технологии отвальной системы обработки почвы и посева на базе нового комплекса машин позволит в 2—3 раза сократить число технологических операций и проходов агрегатов по полю, в 4—5 раз сократить парк почвообрабатывающих и посевных машин в хозяйствах, снизить затраты труда на 25—30%, расход горючего — на 15—20%, металла — на 20—25% при увеличении урожайности до 20%.

Мы разоряемся, работая с малопроизводительной техникой. Помимо этого техника непрочная. Рабочие органы сельхозмашин не выдерживают нагрузки, постоянно ломаются. Военную технику, которая не находит применения в народном хозяйстве, необходимо частично переплавить и сделать то, что нужно селу.

Что же мешает сегодня оперативно их внедрять в сельскохозяйственное производство и получать ощутимый результат?

На мой взгляд, следующее:

— по-прежнему остается неразвитым связующее звено между наукой и производством;

— недостаточное поощрение внедренческих работ.

Во всех цивилизованных государствах создана мощная сеть государственных и частных консультативных служб, опорно-показательных центров и фирм, в задачу которых входит оперативное доведение до практики всего нового и передового.

На совещании в марте с приглашением ученых и руководителей хозяйств определено 5 базовых хозяйств, в которых должны отрабатываться перспективные почво- и ресурсосберегающие технологии возделывания с/х культур и готовиться предложения по их тиражированию в области. В числе этих хозяйств и наш колхоз "Логоза". Это хорошая идея, и ее нужно до конца воплотить в жизнь. В эти хозяйства за счет средств области планировалось поставить вышеназванную технику, но пока мы ее не дождались.

Еще хотел затронуть очень важный вопрос, связанный с охраной окружающей среды. На заседании комиссии по аграрным вопросам я поднимал этот вопрос, но сдвинуть с места не удалось. Почти в каждом районе есть крупные свиноводческие комплексы. Есть он и в нашем хозяйстве — 24-тысячник. Создавался он как межхозяйственный 7 лет тому назад. Сейчас это колхозное подразделение. Трудно содержать такое производство, но от его деятельности есть в хозяйстве деньги.

Перевод животноводства на промышленную основу и строительство животноводческих комплексов привели к возрастанию объемов жидкого навоза и необходимости утилизации его на ограниченной площади. Жидкие органические удобрения образуются на животноводческих комплексах с гидравлической системой навозоудаления.

В связи с этим обостряется проблема охраны окружающей среды от загрязнений, расходуются большие объемы воды. На производство 1 тонны свинины расходуется до 110 кубометров чистой воды.

Назрел вопрос заняться реконструкцией очистных сооружений и за счет этого снять существующие проблемы. В хозяйстве есть проект, который можно осуществить при обеспечении финансирования.

В наших полевых водохранилищах будет только чистая осветленная вода, которую можно повторно пустить на комплекс для технических нужд. Это колоссальнейшие суммы экономии в одном хозяйстве, а в области это миллиарды и триллионы рублей. Поэтому, как бы тяжело нам ни жилось, а решать проблемы надо, найти деньги, осуществить этот проект.

## *И.М.ШНИТОВСКИЙ*

***(Вязынский избирательный округ №52, начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Вилейского райисполкома):***

— Считаю, что проводимых в последние годы экспериментов над селом достаточно и пора прекращать испытывать терпение его тружеников, так как оно не беспредельно.

Мы все настойчивее должны ставить перед президентом и правительством страны требование по стабилизации финансово-кредитной и ценовой политики, по восстановлению паритета цен на сельскохозяйственную и промышленную продукцию. Только в этом случае можно сохранить коллективное хозяйствование на земле, параллельно развивать фермерство, личные подсобные хозяйства граждан.

А пока этого нет, и мы по-прежнему пытаемся часть общегосударственных проблем решать за счет колхозов и совхозов, других подразделений агропромышленного комплекса. К чему это приводит — видно в нашем районе. За последние годы почти во всех хозяйствах прекращено новое строительство, не приобретается техника, свернуты работы по капитальному и текущему ремонту основных фондов, нет возможности в полном объеме восстановить естественное плодородие земли. Экономя почти на всем, тем не менее хозяйства района все больше залазят в долговую яму.

По состоянию на 13 сентября текущего года задолженность агропромышленного комплекса района по краткосрочным ссудам составила 2,2 миллиарда рублей и долгосрочным — 96,5 миллиона рублей.

В этой связи хотел бы поднять несколько проблем, положительное решение которых на государственном уровне способствовало бы укреплению экономики хозяйств.

Это, во-первых, изменение существующей практики расчетов заготовительных предприятий за сданную колхозами и совхозами продукцию. Тут твердой системы и порядка нет. В большинстве своем заготовители задерживают оплату в несколько раз больше установленных сроков. И на сегодняшний день практически ежедневная задолженность перерабатывающих предприятий колхозам и совхозам составляет почти 3 миллиарда рублей. В то же время обслуживающие село предприятия и снабженческие организации без предоплаты ничего колхозам и совхозам не дают. И в итоге опять страдает крестьянин.

Просил бы областной комитет по сельскому хозяйству и продовольствию, Министерство сельского хозяйства поделовому вмешаться в работу по заготовкам льна, зерна, мясокомбинатов, Министерства хлебопродуктов и оперативно ликвидировать задолженность колхозам и совхозам за проданную продукцию, а в дальнейшем навести в этом деле законодательный порядок, что позволит ликвидировать наживу на сельхозпродукции различных коммерческих структур и спекулянтов-перекупщиков, защитить интересы народа Республики Беларусь.

Во-вторых, просил бы облисполком, его отделы и управления решительнее выполнять решения правительства в части взятия на бюджетное содержание социальной инфраструктуры колхозов и совхозов, так как им без помощи государства не сохранить нормальное функционирование детских садов, столовых и бань, прачечных, Домов культуры, школ, медицинских учреждений, магазинов и торговых центров, поддержание на должном уровне ведомственного жилого фонда.

Частичная компенсация стоимости коммунальных услуг, проведенная за прошлый отопительный сезон, не спасает положения. К примеру, только колхозу "Любань" на приобретение мазута на нынешнюю зимовку необходимо затратить 728 миллионов рублей. Таких средств у хозяйства и в местном бюджете попросту нет. Аналогичное положение складывается в остальных хозяйствах района, имеющих развитую социальную инфраструктуру. А ведь, создавая эту базу в так называемые "застойные" годы, мы оказались неготовыми ее эксплуатировать и содержать в рыночных условиях.

Остается нерешенной проблема по так называемой "скрытой" форме налогов. Все обслуживающие организации, не освобожденные от уплаты чрезвычайного налога, налога на топливо и некоторых других, включают эти налоги в стоимость товаров и оказанных услуг сельхозпредприятиям и практически выплачивают эти налоги колхозы и совхозы, а не организации, ими облагаемые.

Однако труженики села и в таких сложнейших условиях добиваются определенных результатов. За 8 месяцев текущего года производство молока в колхозах и совхозах района увеличилось к уровню прошлого года на 10,4 процента, с 19,8 процента до 9,4 процента сократились темпы падения производства мяса. Прекратилось сокращение численности поголовья скота. Практически завершена уборка зерновых. С одного гектара получено более 27 центнеров; намолочено более 67 тысяч тонн зерна. На 73 процента выполнены объемы продажи зерна государству по договорам контрактации.

Выдвинутые временем проблемы требуют решить ряд экономических вопросов, связанных как с производством, так и переработкой и реализацией продукции. Колхозы и совхозы сдают свою продукцию на обособленные предприятия госсектора по минимальным закупочным ценам, а те, превратив их в готовую продукцию, извлекают в несколько раз большие прибыли. Поэтому в хозяйствах района принимаются меры по расширению собственной базы по переработке продукции сельского хозяйства.

В настоящее время на базе колхозов и совхозов создано 13 подсобных цехов и промыслов, в которых за первое полугодие 1994 года произведено товаров для населения на сумму свыше 173 миллионов рублей, из них продуктов питания почти на 88 миллионов. Прибыль от деятельности всех подсобных промыслов составила 32,3 миллиона рублей.

Все больше развитие получает фирменная торговля. Пятью хозяйствами открыты магазины по реализации говядины, свинины, мяса птицы, колбасных изделий, овощей и других продуктов.

В районе функционирует 12 предприятий рыночного типа. В их числе один кооператив, семь малых предприятий, четыре общества с ограниченной ответственностью. Некоторые из них уже дают ощутимые результаты.

Кроме колхозов и совхозов в районе работают самостоятельно 28 фермерских хозяйств, за которыми закреплен 421 гектар земли. Однако только 2 из них могут быть удовлетворены результатами своего труда. В целом же за прошлый год фермерами произведено сельхозпродукции на 5,8 миллиона рублей, что составило лишь 2 процента от общего объема производства валовой продукции колхозов и совхозов.

Беды у фермеров те же. И в первую очередь — отсутствие материально-технической базы. Все материально-технические ресурсы фермеры вынуждены приобретать по ныне существующим ценам, что явно им не по карману. В 1994 году на первичное обустройство фермерских хозяйств направлено 24 миллиона рублей. Но выделяемая финансовая помощь не спасает положения. Следовательно, значительного роста количества фермеров и получения товарной продукции от их деятельности ожидать не приходится.

Исполкомом проводится работа по содействию в развитии личных подсобных хозяйств граждан, выделению дополнительных земельных участков. Средний размер приусадебного участка жителей села увеличился с 0,35 до 0,57 гектара, или на 62 процента.

С целью увеличения производства молока и мяса колхозы и совхозы стремятся максимально обеспечить потребность населения в молодняке крупного рогатого скота, свиней и птицы. За 2 последних года было продано населению 26,5 тысячи поросят и 2 тысячи голов крупного рогатого скота.

Несмотря на проводимые меры по стабилизации экономики, коренные вопросы развития сельскохозяйственного производства остаются пока нерешенными.



# Вяртанне да жыцця

У Рэспубліканскі навукова-даследчы інстытут анкалогіі і медыцынскай радыялогіі людзі едуць з усіх куткоў Беларусі. Для многіх гэтая ўстанова — апошняя надзея. Супрацоўнікі інстытута робяць усё магчымае і нават немагчымае, каб выратаваць чалавека. У распараджэнні ўрачоў ёсць сучасная медыцынская тэхніка. Але ж галоўнымі былі і застаюцца высокі прафесіяналізм, майстэрства і жаданне дапамагчы хвораму чалавеку. Усе гэтыя якасці ў медыкаў інстытута ёсць.

**На здымках:** урач-эндаскапіст вышэйшай катэгорыі Анатоль **Зелянкевіч**; ідзе аперацыя; супрацоўнікі аддзялення лабараторных метадаў даследаванняў Раіса **Смалякова** і Уладзімір **Мураўскі**.

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*



■ Б'ём трывогу

**Косця недалюбліваў матчынага сябра. Калі табе няма яшчэ і васемнаццаці, дык чалавека, які даў жыццё, любіш не толькі пяшчотна, а і эгаістычна. Не кожны ў такой сітуацыі пусціць у кола сваіх родных кагосьці пабочнага. Да таго ж, новы госць часта прыходзіў у падпітку, паводзіў сябе даволі груба, нярэдка нахабна.**

**Менавіта ў такім стане і распачаў сварку з падлеткам. Яна перарасла ў бойку. Раз'юшаны Косця схапіў цагліну, пачаў біць госця. Пакуль той не перастаў дыхаць.**

**Гэтая гісторыя ўсхвалявала Любаншчыну. Хаця падобныя выпадкі здараюцца тут усё часцей.**

# Страшнае люстэрка

***— Адкуль у падлеткаў такая жорсткасць?*** — пытаюся ў начальніка раённай інспекцыі па справах непаўналетніх **С.Г.КОКШЫ.**

— Ад нас з вамі, — сумна гаворыць Сяргей Генадзьевіч. — Паводзіны дзяцей — гэта люстэрка таго, што адбываецца ў нашым хворым грамадстве.

Вядома: дзяцей выхоўвае ўсё, што іх акружае, — людзі, рэчы, з'явы. І асабліва — учынкі дарослых. Нярэдка яны проста капіруюць нас. Дзядзькі і цёткі ўсё часцей спрабуюць "утапіць" свае праблемы ў гарэлцы. І вось ужо Валю Мафіеню, якой не споўнілася і семнаццаці, двойчы затрымліваюць у нецвярозым стане. Прыкладваюцца да чаркі яе равесніцы Наташа Дастанка, Іра Корбут. А ім жа трэба яшчэ расці, развівацца, жыць!

Імкненне мець дармавыя грошы заразіла "меднай ліхаманкай" дарослых. Эпідэмія тут жа перакінулася і на дзяцей. Вася Варэнік, Толя Жаўрыд, Віця Сабалеўскі крадуць электрарухавікі з базы мясцовага прафесійнага вучылішча, дастаюць з іх каляровыя металы, вязуць у Слуцк, прадаюць камерсантам.

Хапае выпадкаў, калі дарослыя самым непасрэдным і ганебным чынам спрыяюць дзіцячай злачыннасці. Як ні дзіва, але гэтым нярэдка займаюцца нават бацькі. Напрыклад, сем крадзяжоў у вёсках Забалаць, Чырвоная Горка ўчынілі шаснаццацігадовы Дзіма Міронаў і яго малодшая сястра Іна. Цягнулі ўсё што пад руку траплялася: паркаль, віно, гадзіннікі, хусткі, сала. Укралі веласіпед, тэлевізар. Выкрыць вясковых "рэцыдывістаў" аказалася нескладана. Адным з першых пытанняў да іх маці, саракавасьмігадовай Марыі Уладзіміраўны, палявода калгаса імя Кірава, было:

— Няўжо вы не бачылі, што дзеці прыносяць у хату чужыя, нярэдка дарагія рэчы?

Аказваецца, бачыла. Але акуратна прыхоўвала ўкрадзенае. Тлумачыць: маўчала, бо не хацела непрыемнасцей дзецям. І тым самым падштурхоўвала сына, дачку на новыя злачынствы.

Што гэта — блізарукасць жанчыны? Празмерная сквапнасць? Імкненне пажыць за чужы кошт? Як бы там ні было, а вынік — сумны: маці на тры гады пазбаўлена волі. На гэты ж тэрмін асуджаны і Дзіма з Інай. Праўда, з адтэрміноўкай выканання прыгавору на два гады.

Не магла не ведаць, чым займаюцца сыны-падлеткі Іван ды Аляксандр, і рабочая рамонтна-будаўнічага ўпраўлення Т.І.Карпава. А тыя спачатку кралі кніжкі, затым сцягнулі веласіпед. Потым папаліся, калі ўжо пакваліліся на кабель з кранаў, электрарухавікі, даставалі тую ж медзь. Камісія па справах непаўналетніх вырашыла: папярэдзім апошні раз. Не будуць зроблены кардынальныя высновы — хлопцам прамая дарога ў спецшколу ці вучылішча.

***— Для каго такое папярэджанне — "чырвоны" сігнал у першую чаргу: для дарослых, дзяцей?***

— Вядома, для дарослых, — адказвае Сяргей Генадзьевіч. — Дарэчы, усвядоміць сваю адказнасць за лёс дзяцей неабходна не толькі бацькам. На многія правапарушэнні падлеткі ідуць, бо не ведаюць, куды сябе падзець. Уладкавацца на работу для іх — праблема з праблем. Беспрацоўных юнакоў і дзяўчат усё больш і больш. Вось і не дзіўна, што з 15 злачынстваў, учыненых падлеткамі за паўгоддзе, 11 — групавыя.

**Усё, аб чым гаварыў кіраўнік інспекцыі, ён, як кажуць, прапусціў праз уласныя сэрца, нервы. Нямала часу, сіл спатрэбілася Сяргею Генадзьевічу, напрыклад, каб уладкаваць у мясцовае вучылішча хлопца. Яму — 16 гадоў, а за плячыма 15, няхай і не надта буйных, крадзяжоў, выхаваўча-працоўная калонія. У інспекцыі прызнаўся: я добра адчуў непрыемны смак несумленнага жыцця, хацеў бы пачаць усё спачатку. Як жа ў такім выпадку не дапамагчы?**

**Цяпер хлопец вучыцца на "4" і "5". А колькі такіх, як ён, бадзяюцца без справы, ходзяць па лязу брытвы? На ўліку ў міліцыі, як ненадзейныя, у першым паўгоддзі 1994 года стаялі сто любанскіх падлеткаў, 33 сям'і.**

**А ведаеце, чаму адміністрацыя таго ж СПТВ-201 неахвотна прымае на вучобу такіх вось падлеткаў? Таму, што калі хто-небудзь з іх правапарушэнне ці злачынства ўчыніць, некаторых работнікаў вучылішча прэміі пазбавяць. Пагадзіцеся, ад падобных метадаў выхавання вельмі ўжо моцна нафталінам патыхае.**

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

# Парадаваў ураджай парэчак

Тры гады займаецца вырошчваннем чорных парэчак калгас імя Леніна Крупскага раёна. Першы год быў ураджайны на "вітамінны канцэнтрат". З усёй плантацыі, а гэта складае 3 гектары непадалёку ад вёскі Гапановічы, тады быў неблагі збор.

Летась, на жаль, парэчкі не ўрадзілі. А вось сёлета яны былі буйныя, на радасць усім калгаснікам, дзякуючы намаганням Тамары Канстанцінаўны Шабалавай, якая загадвае плантацыяй. Дарэчы, прадавалі іх членам мясцовай гаспадаркі і пенсіянерам намнога танней, чым іншым.

У бухгалтэрыі калгаса паведамілі, што вырошчванне чорных парэчак вельмі выгаднае для гаспадаркі. Ад продажу іх даход склаў мільён 300 тысяч рублёў.

# *Навіны адным абзацам*

- Вядомую ісціну, што скупы плаціць двойчы, пацвердзіў аналіз мінулай уборкі на Брэстчыне. Спецыялісты-аграрнікі прыйшлі да вываду, што асноўны недабор збожжа прыпадае менавіта на тыя гаспадаркі, якія ў свой час вырашылі "зэканоміць" на мінеральных угнаеннях і гербіцыдах. Таму не адна засуха вінаватая. Да таго ж аблсельгасхарч б'е трывогу і наконт звязанай з гэтым яшчэ адной праблемы: сёння ўжо 68 гаспадарак вобласці маюць адмоўны баланс утрымання гумусу ў глебе. І гэтая нядобрая тэндэнцыя нарастае.
- Рэальная перспектыва застацца ў хуткім часе без работы замаячыла перад калектывам Баранавіцкага камбіната харчовых прадуктаў. З-за адсутнасці сродкаў прадпрыемства практычна правaліла нарыхтоўкі агародніны і садавіны для перапрацоўкі. І раней яму выдзяляліся мэтавыя крэдыты, якія затым, па меры рэалізацыі прадукцыі, вярталіся. Сёлета для поўнай загрузкі магутнасцей трэба было б мець 13 мільярдаў рублёў, але камбінат не змог атрымаць і абяцаны крэдыт у пяць мільярдаў. Аказваецца, такіх грошай няма і ў мясцовых банкаў. А тыя крыхі, што яны выдзяляюць, прыходзіцца браць пад 200 працэнтаў гадавых, аддаваць жа трэба будзе кругленькую суму, і, зразумела, гэта адаб'ецца на павышэнні цаны на сваю прадукцыю.
- 200 дзяцей-сірот прыняў жаночы савет Віцебска ў канцэртнай зале абласной філармоніі. Вучняў малодшых класаў чакалі забаўляльная праграма і падарункі спонсараў з завода харчовых прадуктаў і камерцыйнага прадпрыемства "Клопат".
- Новы дзіцячы сад, абсталяваны ўсім неабходным для ўсебаковага развіцця дзяцей, адкрыў Аршанскі мясакансервавы камбінат. Акрамя звычайных функцыянальных памяшканняў, тут абсталяваны залы для заняткаў па музыцы, камп'ютэрны клас, ёсць басейн, летні сад. Увесь гэты комплекс каштаваў прадпрыемству 30 мільёнаў рублёў.
- З пачатку бягучага года на пераездах Беларускай чыгункі адбылося 43 аварыі. У выніку сутыкненняў транспартных сродкаў загінулі 13 чалавек, а 15 атрымалі цяжкія калецтвы. Разбор трагедый на чыгунцы высвеціў галоўную прычыну ўсіх гэтых бед — грубае грэбаванне правіламі руху пры пераездзе цераз чыгуначнае палатно.

*БЕЛІНФАРМ.*

